Гаючая флора

# Чабор

У перакладзе з грэчаскага азначае «сіла», «дух». Гэтай назвай старажытныя лекары хацелі падкрэсліць лячэбную сілу расліны. Яе цанілі егіпцяне, рымляне, грэкі. Галоўным кампанентам чабору з'яўляецца эфірнае масла — цімол, наяўнасць якога надае яму бактэрыцыдны і дэзінфікуючы эфект. Таму ў Егіпце яго выкарыстоўвалі пры бальзамiраванні. Грэкі цанілі здольнасць чабору супакойваць і ўмацоўваць нервовую сістэму, расшатаную празмерным ужываннем алкаголю і наркотыкаў. Для гэтага сталовую лыжку сушаных кветак трэба заліць шклянкай вару, настояць 10-15 хвілін, піць па сталовай лыжцы 3 разы ў дзень.

Збіраць чабор лепш да пачатку масавага цвіцення, сушыць у цені, захоўваць у драўлянай ці кардоннай упакоўцы. Жанчынам лепш збіраць фіялетава-чырвоныя кветкі ў чэрвені-ліпені, пакуль бачны фіялетавы колер.

Для мужчын выкарыстоўваць лепш ружовыя кветкі чабору, сабраныя ў жніўні-верасні.

Карысная гарбата з чаборам хворым нефрытам, піеланефрытам, мужчынам, імпатэнцыя якіх спрацавакавана злоўжываннем алкаголю.

Тым, хто залішне заглядвае ў чарку, раім ужываць такую сумесь:

**Рэцэпт:** 4 часткі чабору, 1 частка горкага палыну. Сталовую лыжку сумесі 5 хвілін варыць у шклянцы кіпеню. Піць па сталовай лыжцы 3 разы ў дзень на працягу 2-3 месяцаў.

Даволі хутка перастануць трэсціся рукі, знікне напружанасць у нагах, сэрцы. У многіх ужо пасля двухтыднёвага ўжывання адвару ўзнікне абыякавасць, а то іншы раз нават агіда да алкагольных напояў. Можна прапанаваць і іншую рэцэптуру. Двойчы ў дзень піць 25 мл 7% спіртавога раствору чабору на працягу 3-4 тыдняў.

У навуковай медыцыне настой, вадкі экстракт травы чабору (па 1 чайнай лыжцы 3 разы ў дзень) ужываюць як адхаркваючы і бактэрыцыдны сродак пры бранхіце, а таксама як абязбольваючае пры радыкуліце, неўралгіі, у стаматалогіі.

Вадкі экстракт травы чабору з'яўляецца састаўной часткай «Пертусіну», які ўжываюць як адхарквальны сродак пры бранхіце і коклюшы.

У народнай медыцыне настой травы (15 г на 1 л вару) п'юць як гарбату пры прастудных захворваннях, бранхіце, коклюшы, захворваннях сэрца, печані, нырак, страўнікава-кішэчнага тракту, нервовай сістэмы, пры рэўматызме, валляку, малакроўі, радзільнай гарачцы.

Пры радыкуліце, неўралгіі, болях у суставах робяць прымочкі з настойкі травы чабору, разведзенай у суаднoсінах 1:10.

Маладыя парасткі чабору з лісцем выкарыстоўваюць у салатах, як прысмакі да мясных і гародніннных страў, для марынавання гуркоў, памідораў, аддушкі спіртных напояў, гарбаты, воцату, соусаў, кактэйляў, кілбас, сыру і інш.

Вясковаму гаспадару

# У вас малыя парасяты?

**Многія гаспадары трымаюць у сваіх хлявах свінаматак. Апошнім часам гэта прыносіць добры прыбытак. Праўда, клопатаў столькі, што часам яны клянуцца не мець больш справы з гэтым неспакойным статкам. Але праходзіць час і ўсё паўтараецца зноў.**

Дарослая свіння двойчы на год дае прыплод. Маладая праяўляе такі «інтарэс» ў 9-10-месячным узросце. Яе маса ў гэты перыяд даволі значная — да 100 кг. Дзе-нідзе спрабуюць пярэчыць гэтаму прыроднаму інстынкту. Рабіць гэтага нельга, бо жывёла будзе паводзіць сябе нервова, скіне нават вагу.

Паросная свінаматка — вельмі адказны перыяд. Да будучай «мамы» увесь час павышаная ўвага: не крычаць на яе, не лаяцца, часта выпускаць на прагулкі, даваць лепшы корм. І самы разнастайны. Інакш яна будзе, як кажуць, «на ўзводзе»: злосна чвякаць, пускаць пену, сярдзіта рохкаць. Можа нават накінуцца на крыўдзіцеля і пакусаць.

Носіць жывёліна свой прыплод каля чатырох месяцаў, дакладней — 114 дзён (плюс-мінус тры-пяць сутак). Першыя два месяцы не толькі прыкметныя. Пасля гэтага тэрміну ўтрыбантробнае развіццё плода ідзе хутка. У апошні месяц асабліва. У гэты час трэба даваць павышаную колькасць кармоў. Вядома, яны лепшай якасці. Устрымацца ад тых, якія выклікаюць павышанае браджэнне ў страўніку, выключыць падмарожаныя і гнілыя. Корм даваць не менш як тры разы на суткі. Столькі ж разоў і паіць. У зімовы час і корм, і вада, вядома, падагрэтыя да 15-22 градусаў.

Апарос пачынаецца звычайна ўначы. Свінаматка паводзіць сябе неспакойна: ходзіць, трывожна рохкае, разза-разам «будуе» гняздо. Сам апарос працягваецца ад 1,5 да 5-6 гадзін. Парасяты ідуць як з канвеера — з прамежкамі ў 8-25 хвілін. Пажадана, каб гаспадары былі побач і прымалі нованькіх. Пад рукамі чыстыя сцярыльныя анучкі, вядро з цёплай вадою (да 40 градусаў), ёд. Кожнага малога абцерці ад слізі, звяртаючы ўвагу на лычык. Ён жа павінен дыхаць! Усе пасляды (абалонка кожнага малога) вынесці і закапаць. Свіння не павінна іх з'есці, бо ў такім разе яна можа паесці сваіх дзяцей.

Малых хутка агледзець, змазаць ёдам пупавіну, прамасіраваць. Адразу падпусціць да маці. У той, вядома, працёртыя цёплай вадою саскі. У малодзіве вельмі многа карысных харчовых кампанентаў. І лекавых. Нават непрацяглае кармленне стварае для нованькага бяспечны перыяд развіцця.

Усіх парасят змяшчаюць у скрынку, якая ўцеплена: падлога заслана саломай, сенам і анучкамі, уверсе гарыць электралямпачка магутнасцю ў 100-150 ват. Яна якраз дае патрэбнае цяпло. У самім хляве няма скразнякоў.

Бываюць ускладненні? Безумоўна. Здараецца, малыя з'яўляюцца на свет «у сарочцы» — каляплоднай абалонцы. Яе разарваць, вызваляючы малога з «палону». Яшчэ горш, калі нованькі не праяўляе ніякіх прыкмет жыцця: вялы, сонны. Яго змясціць у цёплую ваду, якая знаходзіцца ў вядры (+40-43 градусы). Зверху толькі галава. Трымаць да пяці хвілін (можна і менш). Пасля расціраць, аднаўляючы яго жыццёвыя функцыі.

У час апаросу свінаматка траціць вельмі многа вады. Вядома, хоча піць. Нічога дрэннага не здарыцца, калі яна ўстане і нап'ецца. Вада зноў-такі пакаёвай тэмпературы і чыстая. А праз 9-10 гадзін яе трэба ўжо і пакарміць. Падыйдзе цёплая мешанка з аўсянкі, вотруб'я. Ежа вельмі вадкая і падсоленая — лыжка на 6 літраў. Колькасць кармоў павялічваць з кожным днём. Нормы вышэйшыя: на 60-80 працэнтаў больша, чым у перыяд пароснасці.

Малыя бегаюць да «мамы» да 30 разоў за суткі. А практычна праз кожныя 40 хвілін. Кожнага трэба прывучыць да парадку. У такім выпадку яны не будуць панікаваць і ваявацьза свой сасок. Звычайна на пяты дзень «паніка» канчаецца: кожны ведае сваё месца. Гаспадыні і тут умяшваюцца. Слабых прывучаюць да пярэдніх саскоў (там больш малака), моцных пакінуць ля задніх. Памылкі не будзе, калі на спінцы маладняка будуць стаяць лічбы 1, 2, 3 і г.д. (па парадку саскоў свінні) і літары «Л» ці «П», што значыць правы і левы бок. Цяпер свавольніка, які імкнецца ўкрасці чужое малако, вельмі лёгка паставіць на месца. Паметкі можна рабіць сінькай (парасяты белыя) ці белымі фарбамі (малыя цёмнай афарбоўкі). Калінікалі бывае так, што парасят больш, чым саскоў у свінні. У гэтым разе малых кормяць па чарзе: паеў крыху — ўступі месца «браціку». Ці праз адно кармленне. Абавязкова малых падкормліваюць малаком каровы ці казы.

З народнага лячэбніка

# Народны сродак супраць малакроўя, пачатковай стадыі сухотаў і схуднеласці

*Бяруць пароўну, прыкладна паўфунта (200 г): добрае какава, нутраное свіное сала, мёд і сметанковае масла.*

Усё пакласці ў алюмініевую каструлю і распусціць на павольным агні, увесь час памешваючы ўмесціва каструлі лыжкай, каб яно не прыгарэла. Мяшаць трэба да тае пары, пакуль састаў не распусціцца і не стане кіпець. Тады трэба зняць каструлю з агню і даць сумесі ахаладзіцца. Калі састаў застыне, скласці яго ў шкляны слоік. Захоўваць у прахладным цёмным месцы.

**Спосаб ужывання:** узяць чайную лыжку гэтай сумесі і распусціць у шклянцы гарачага малака, як толькі можна цярпець, не абпякаючыся. Піць разы тры-чатыры ў дзень, іншы раз і менш, у залежнасці ад схуднеласці чалавека. Гэты сродак добра дапамагае малакроўным, а таксама хворым на сухоты ў пачатковай стадыі хваробы.

Калі пры карыстанні гэтым сродкам будуць назірацца запоры, неабходна есці шмат чарнасліва ў розныя часы дня, як прыроднае паслабляльнае. Ды і наогул усялякія фрукты і сокі ці сумесь з фруктаў, якія валодаюць здольнасцю паслабляць і ачышчаць страўнік. І сталовыя буракі, вінегрэт карысна есці.

Дактары раяць ужываць аптэчныя паслабляльныя лекі толькі ў выключных выпадках, не робячы звычкі да гэтага.

Куток гаспадыні

## Варэнне з белай часткі кавуна

*1 кг корак, 1,5 цукру, 0,5 л вады.*

Аддзяліць белую ад вонкавай зялёнай часткі кавуна і ад яркай чырвонай. Нарэзаць на кубікі 1-1,5 см. Апусціць на 7-10 хвілін у гарачую ваду і затым варыць у вадкім сіропе, пакуль корачкі не стануць празрыстымі, пасля чаго вытрымаць 8-10 гадзін. Варку паўтарыць 3-4 разы з перапынкамі 3-4 гадзіны. Дадаць ваніль і лімонную кіслату на кончыку чайнай лыжкі. Можна гэта варэнне згатаваць з яблыкамі, слівай, грушай, айвай.

## Цукаты з кавуна

Прыгатаваць коркі, як для варэння. Заліць сіропам. Варыць, як і варэнне. Празрыстыя кубікі адкінуць на друшляк, вытрымаць 1,5-2 гадзіны, каб сіроп цалкам сцёк, падсушыць 5-8 гадзін пры тэмпературы 50-40°C. Затым перасыпаць цукровай пудрай. Цукаты захоўваць у сухім месцы. Сіроп, які застаўся ад цукатаў, можна выкарыстаць для варкі варэння з яблыкаў, груш.

## Катлеты з кабачкоў

*700 г ачышчаных кабачкоў, 2-3 ст. лыжкі мукі, 100-150 г брынзы, 2 жаўткі з яйкаў, 1 яйка для паніроўкі, 2 ст. лыжкі сыру, 1 ст. лыжка масла, 1 ст. лыжка сухароў.*

Кабачкі прыпусціць да мяккасці ў невялікай колькасці падсоленай вады. Масу перамяшаць і ахаладзіць, дадаць брынзу, жаўткі яек, соль, перац. Сфармаваць катлеты, запаніраваць, змазаць узбітым яйкам, зноў запаніраваць, падсмажыць. Пры падачы пасыпаць цёртым сырам.

## Капуста з хрэнам

*400 г капусты, 1 вараны бурак, 1 ст. лыжка хрэну, 2 ст. лыжкі алею, цукар, зеляніна пятрушкі.*

Бурак аблупіць, нацерці на драчцы, змяшаць з капустай, хрэнам, цукрам і алеем, упрыгожыць пятрушкай.

## Мятны соус

*Дробна нарэзаць 3 ст. лыжкі мяты, дадаць 2 ст. лыжкі цукру, 1 ст. лыжку воцату, 3-4 ст. лыжкі вады. Даць пастаяць 2 гадзіны.*

Соус падаюць да мясных і рыбных страў.

Для вашай карысці

## Прынцыпы правільнага харчавання

Запомніце наступныя правілы: свежыя прадукты на працягу ўсяго дня; часцей ешце хлеб з цэльнамолатага зерня; менш мяса і тлушчу; толькі зрэдку дазваляйце сабе прысмакі.

Ешце больш салатаў з сырой гародніны, шмат садавіны і піце сокі. Вельмі карысна харчавацца невялікімі порцыямі некалькі разоў на дзень. З пункту гледжання фізіялогіі, правільна з'ядаць невялікую порцыю салаты перад кожным прыёмам ежы. Пры гэтым пажыўныя рэчывы лепш засвойваюцца арганізмам, стымулюецца выдзяленне страўнікавага соку. І такая закуска малакаларыйная.

## Мёд і касметыка

Для догляду за агрубелай скурай, якая яшчэ і патрэскалася, трэба змяшаць па роўну пчаліны мёд і гліцэрын і гэтай сумессю змазваць скуру. І скура зноў стане гладкай і здаровай.

Што ў імені тваім?

## Алла

Сур'ёзныя праблемы стварае сабе сваім высокамер'ем і здольнасцю раздражняцца па дробязях. Першае замужжа бывае часта няўдалым. Магла б стаць ідэальным партнёрам у шлюбе, калі б была менш ашчаднай і мела б вялікае пачуццё гумару.

Удалы шлюб можа быць з Аляксандрам, Віктарам, Яўгенам, Міхасём, Пятром, Уладзімірам, Якавам. Мала падыходзяць Аляксей, Анатоль, Дзімітрый, Ігар, Мікалай.

## Анастасія

Прывабная і чуллівая жанчына з моцна развітым пачуццём жалю. Замуж выходзіць рана, выбірае мужчыну моцнага, упэўненага. Яна верная і клапатлівая жонка і добрая гаспадыня, клапатлівая і любячая маці. Удалы шлюб будзе з Барысам, Уладзімірам, Віктарам, Дзянісам, Косцем, Алегам, Паўлам, Сямёнам. Складаныя адносіны будуць з Вадзімам, Віталем, Мікалаем, Станіславам і Піліпам.

Падказкі дачнікам

# Куратнік на самаабслугоўванні

**Многія гараджане разводзяць на дачы курэй, але не ўсе могуць штодня наведваць сваіх гадаванцаў. Як жа быць? Птушку неабходна карміць і паіць.**

Раім змайстраваць вельмі простую, танную і эфектыўную кармушку-тыдзень. Канструкцыя яе даволі вядомая — усечаны конус з латком, а змайстраваць яе можна з бытавых адходаў.




Трэба ўзяць старое вядро, выдаліць у яго дно. З кавалка радна сшыць рукаў у выглядзе ўсечанага конуса (1). Шырокую частку рукава надзець на ніжнюю частку вядра і зафіксаваць шпагатам. Пад вузкай часткай рукава пры дапамозе тонкіх і трывалых шнуркоў прымацаваць пустую кансервавую бляшанку дыяметрам 25 см з-пад селядцоў (2). Вось і ўся кармушка (гл. малюнак).

Цяпер можна засыпаць у вядро зерне і павесіць кармушку на цвік пад столлю так, каб бляшанка з зернем аказалася на ўзроўні падлогі. Куры клююць зерне, а з вядра падсыпаецца новая порцыя.

Па такому ж прынцыпу — рэзервуар і паддон — выраблёяецца і аўтапаілка. Толькі яе неабходна рабіць з ліставога ацынкаванага жалеза і добра запаяць швы. Рэзервуар аўтапаілкі ўяўляе сабой два злучаныя шырокімі часткамі конусы. Уверсе ніжняга робяць адтуліну ў 1 см для падачы вады ў паддон. Верхні ўсякаюць так, каб было зручна наліваць у рэзервуар ваду, але каб куры не маглі туды трапіць.

"Беларускі Ўсход"

Грамадска-палітычная і літаратурна-мастацкая газета.

На беларускай і рускай мовах.

*Заснавальнік* — рэдакцыя газеты «Беларускі Ўсход».

**Галоўны рэдактар Васіль ДАЎГАЛЁЎ**

**Адрас:** в.Маркаўка, Хоцімскі р-н, Магілёўская вобл., 213670.
Тэлефон галоўнага рэдактара 22-9-89

**Рэгістрацыйны N 141**
Падпісны індэкс — 64098

*Пункт гледжання аўтараў надрукаваных матэрыялаў можа не супадаць з пазіцыяй рэдакцыі.*

*За дакладнасць фактаў, падзеяў, прозвішчаў і іншай інфармацыі адказваюць аўтары апублікаваных матэрыялаў.*

Газета падпісана да друку ў 16 гадзін 8 лістапада 2001 г.
Надрукавана ў Магілёўскай абласной друкарні, вул. Першамайская, 70.
**Наклад 1420 ас. Аб'ём 1 друк. аркуш. Заказ № 40.**